© PDF: Kamunikat.org 2023

# НА МЯЖЫ

## АБ „СТРАЦЕГІІ“

Здарылася гэта больш дваццаці гадоў назад у Белавежскім запаведніку, перад старым рэстаранам, які ўжо зараз не існуе. На лаўцы сядзела двух грамадзян, а пры іх нейкі жыхар Белавежы. З размовы, якую вялі гэтыя грамадзяне з жыхаром Белавежы, вынікала адназначна, што яны прыехалі з Варшавы на экскурсію або на адпачынак у Белавежу. Яны гаварылі, што перад вайною працавалі настаўнікамі на беларускім Палессі і захавалі ў сваіх сэрцах сімпатыю да беларускага народа, хаця самі па нацыянальнасці з'яўляліся палякамі.

Прыезджыя выразна цікавіліся беларускай этнічнай спецыфікай аколіц Белавежы і якраз аб гэтым стараліся пачаць гутарку з крыху выпіўшым, але не п'яным мясцовым жыхаром. Акцэнт і лексічная спецыфіка мовы жыхара Белавежы выразна сведчылі аб тым, што ён з'ўляецца беларусам. Яго беларускасць, зрэшты, сцвярджалася „логікай“ і спецыфікай яго выказванняў і паводзін. Дзіўныя былі гэта выказванні, плыткія і прымітыўныя, аднак яны вельмі глыбока характарызавалі духоўнае ўбоства, на жаль, вялікай часткі беларускай нацыі. Хацелася б прывесці тут прыблізны характар гэтай размовы.

Грамадзяне:
Po raz pierwszy jesteśmy w Białowieży i widzimy, że miejscowa ludność jest etnicznie ludnością białoruską.

Жыхар Белавежы:
Nie o to się rozchodzi. Powiem dla was, że wszystkie jesteśmy równe.

Грамадзяне:
To jest oczywiste, proszę pana, ale jednak mamy tutaj wyraźne dowody, świadczące o białoruskości miejscowej ludności.

Жыхар Белавежы:
Wcale o to się nie rozchodzi. Mówie dla was, że wszystkie jesteśmy równe.

Грамадзяне:
Wiemy, że wszyscy jesteśmy równi, ale wiadomo przecież, że w Polsce powojennej są mniejszości narodowe i że rejon białowieski potwierdza tę prawdę.

Жыхар Белавежы:
Nie o to się rozchodzi. Wszystkie jesteśmy równe. Jeszcze raz to dla panów mówię.

Грамадзяне:
Proszę pana, nawet wypowiedzi pana świadczą o tym, że tkwi pan w żywiole języka białoruskiego, jest to piękne, bo potwierdza niepowtarzalną specyfikę tego regionu.

Жыхар Белавежы:
Dla mnie się wydaje, że wszystkie ludzie są równe i nie o to się rozchodzi, żeby my tu o tym rozmawiali.

Грамадзяне:
Proszę pana, my z ogromną sympatią odnosimy się do Białorusinów i bardzo byśmy chcieli spotkać tutaj świadomych członków tego narodu.

Жыхар Белавежы:
Nie o to się rozchodzi. Wszystkie ludzie są równe i dla nas nie trzeba o tym rozmawiać.

Госці прабавалі і так і сяк, але нічога з гэтых спробаў не выйшла. Жыхар Белавежы маніякальна паўтараў сваё: „Nie o to się rozchodzi“. Урэшце госці ўсталі і пайшлі алейкай у бок выхаду з парку. Я пайшоў за імі з выразным намерам, каб падслухаць, што яны будуць гаварыць. Гаварылі аб жыхары Белавежы і трэба сказаць, што гаварылі такое, што сведчыла аб іх здзіўленні. Гаварылі аб тым, што па сутнасці эмбрыянальнасць беларускай нацыянальнай свядомасці, з якой яны сустрэліся, працуючы перад вайною на Палессі, пацвердзілася гэтым жыхаром Белавежы. Грамадзяне выяўлялі здзіўленне, што трыццаць гадоў нічога не змяніла ў свядомасці беларусаў і яны ў далейшым, насуперак прадстаўнікам іншых нацый, не толькі не выкарыстоўваюць адпаведных нагод для таго, каб узняць і падкрэсліць сваю нацыянальнасць, але робяць усё, каб максімальна схаваць сваю нацыянальную прыналежнасць.

Я вярнуўся назад і вельмі здзівіўся, бо жыхар Белавежы сядзеў на той самай лаўцы і нешта сабе пад носам падспеўваў. Я прысеў да яго і загаварыў па-беларуску. Жыхар Белавежы пачаў мне адказваць, на гэты раз — па-беларуску. Калі толькі я загаварыў аб тым, што мяне вельмі здзівіла яго пастава падчас размовы з госцьмі і што, на маю думку, праявілася тут беларуская самапагарда, жыхар Белавежы праявіў вялікую самаўпэўненасць і катэгарычнасць. Пайшоў, што называецца ў атаку, даў мне чосу, сказаў, каб я не ўмешваўся ў яго справы, бо ён не горшы беларус, чым я, і лепш ведае, што трэба рабіць. „А ў тым, што я гаварыў палякам, — заявіў белавежац, — праявілася мая страцегія!“

Прайшло многа гадоў ад гэтага здарэння і, мабыць, і яно прычынілася да майго афарызму: „Паляк нешчаслівы тады, калі чужыя не заўважаюць яго польскасці, а беларус тады, калі чужыя заўважаць яго беларускасць“. Ну, а сцверджанне: „Nie o to się rozchodzi, wszystkie jesteśmy równe“, завядзе нас толькі ў сляпы тупік, бо выяўляецца ў ім „страцегія“ поўнасцю сляпая.

**Алесь Барскі**

(Працяг са стар. 1)

# выказванні

— Wedle spisu z 1979 roku, ponad 1.150 tys. Będziemy starali się ożywić z nimi kontakty kulturalne już istniejące i nawiązać nowe. Sądzę, że zostaną stworzone im możliwości odwiedzania Polski, kontaktu z polską kulturą, z polskim dziedzictwem kulturowym. Jest to nowa treść, będąca częścią „pierestrojki” i „odnowy”. Pamiętajmy jednak, że i my powinniśmy pozbyć się swoistego polonocentryzmu w stosunku do sąsiadów. Musimy brać pod uwagę dawne urazy i nowe aspiracje Ukraińców czy Litwinów. A także łostrzegać mniejszość litewską, ukraińską czy białoruską wśród nas, w Polsce.

Толькі скнара і лянівы не выпісвае „Нівы“

# У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

У Гайнаўцы, 29 ліпеня 1987 г., адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. Прысвечана яно было вынікам сустрэч кіраўніцтва ГП з прадстаўнікамі цэнтральных і ваяводскіх улад. Як вядома, у чэрвені і ліпені г.г. адбыліся сустрэчы з намеснікам старшыні Рады Дзяржавы Тадэушам Шэляхоўскім і віцэ-міністрам культуры і мастацтва Казімежам Цлапкам, з ваяводам беластоцкім Мар'янам Галам. Старшыня ГП Аляксандр Баршчэўскі сустрэўся таксама са старшынёю Нацыянальнай Рады Культуры праф. Багданам Сухадольскім і дырэктарам Грамадска-адміністрацыйнага дэпартамента Міністэрства ўнутраных спраў Ежы Зарэмбам. Патрэба правядзення гэтых сустрэч была выклікана складанай сітуацыяй, у якой апынулася наша Таварыства. БГКТ мае вялікія цяжкасці з выдавецкай дзейнасцю. У апошніх гадах абмяжоўваецца яна толькі да выдавання „Беларускага календара“. Такі стан некарысна ўплывае на беларускі літаратурны рух. Зараз літаб'яднанне „Белавежа“ гуртуе каля 30 паэтаў і празаікаў, з іх восем чалавек з'яўляецца членамі Саюза польскіх пісьменнікаў. Дагэтуль творы „белавежцаў“ выдаваліся толькі Таварыствам. У такой сітуацыі неабходна, каб беларускую выдавецкую дзейнасць пераняло адно з дзяржаўных выдавецтваў краіны.

З 1986 года вядуцца будаўнічыя работы пры Беларускім музеі ў Гайнаўцы. Паўстае Музей грамадскім чынам, дзякуючы ахвярнасці нашага насельніцтва і суайчыннікаў з-за мяжы. Для паспяховага заканчэння будовы Музея неабходна ўвесці яго ў ваяводскія інвестыцыйныя планы і даць фінансавую падтрымку.

БГКТ змагаецца таксама з многімі цяжкасцямі ў аматарскім руху і ў функцыяніраванні самога Таварыства. Вышэй ўспомненыя праблемы ставіліся падчас сустрэч, якія праходзілі ў прыхільнай атмасферы. Можна спадзявацца, што пры дапамозе ўлад знойдуць яны прыхільнае нам вырашэнне ў недалёкай будучыні. І хаця яшчэ зарана гаварыць аб канчатковых выніках, то ўжо з прыемнасцю можна сцвердзіць, што Камісія грамадскіх пачынаў Рады Дзяржавы прызначыла на пачатак пабудовы Музея ў Гайнаўцы 5 мільёнаў злотых.

У далейшым Прэзідыум ГП заслухаў інфармацыю аб ходзе будовы Беларускага музея ў Гайнаўцы. Члены Прэзідыума наведалі будову.

Прэзідыум ГП станоўча ацаніў гэты этап рэалізацыі пабудовы Музея і выказаў словы сардэчнай падзякі членам Камітэта пабудовы і ўсім тым, хто дапамагае ў здзяйсненні гэтай высакароднай ідэі.

Апошняй справай, якой займаўся Прэзідыум ГП, была ацэнка кадравай сітуацыі ў Галоўным праўленні. Актуальна ў ГП тры свабодныя штаты культурна-асветных інструктараў. У сувязі з тым ГП ахвотна прыме на працу ў Таварыстве маладых людзей, якія ведаюць беларускую мову і зацікаўлены дзейнасцю на БГКТоўскай ніве. (л)

# АДГАЛОСКІ

## БЕЗ КОМПЛЕКСАЎ

Я не цёшча, што са мной трэба згаджацца. Хоць наогул я — чалавек памяркоўны, як той хлапец, што ў прымакі пайшоў (гэта пры нагодзе адгалоскаў Кастуся Сідаровіча — „Ніва“. № 27).

Ясна, што мне асабіста прыемней было б, калі б гутарка ішла аб прыемнасцях, а не аб тым, па чыім баку праўда, каб кола чытачоў, якія згаджаюцца з маімі поглядамі, павялічвалася, бо тады і толькі тады становяцца тыя погляды агульнаграмадскімі. А якому ж (можа апрача М. Панфілюка) карэспандэнту-публіцысту „Нівы“ гэтага не хацелася б?! Ён — карэспандэнт, не М. Панфілюк — між іншым, таму і выкладае свае думкі адкрыта на публічны суд і рассявае іх, бы тая „Аўрора“ эпахіяльныя выстралы, і то не для якойсьці там толькі папулярнасці.

Але да справы. І не збіраўся я адказваць сваім палемістам, бо чытачы і так разбяруцца, дзе праўда. Аднак ёсць некалькі спраў, аб якіх трэба пісаць і гаварыць больш і заўсёды. Гэта справы, звязаныя з прагрэсам. Панфілюк піша, што трэба штодзённа есці і найважнейшае — гэта зямлю араць, а тое, што робяць інжынеры, — усё пустое і што пэўна М. Махнацкі. можа, сам — інжынер і таму так добра піша пра іх. У М. Панфілюка „...сапраўдным інжынерам быць — гэта не толькі машыну зразумець ці мост які пабудаваць умець, але і культурным чалавекам быць“ ды да таго яшчэ сваёй нацыі не выракацца.

Фактычна. Каб быць добрым інжынерам, тую машыну трэба зразумець, а ўсё іншае — гэта ідэалогія, якая, вядома, мае сувязь з тым, што хтосьці добры інжынер, бо яна, як усё іншае, паказвае на ўзровень культуры. Узровень культуры ў народзе — гэта прычына таго, што мы так думаем, а не інакш, а павышаем узровень культуры самі, калі штосьці ствараем.

Мала таго, што мы мала ствараем, а мала ствараем, бо проста бракуе для гэтага матэрыяльных стымулаў. Да таго, мае дарагія, дарабляем мы згубную ідэалогію, што важнейшае ад стварэння — гэта выконванне штодзённай, потам заліваючай вочы, працы.

І М. Панфілюк і К. Сідаровіч так заўзята бароняць В. Рудчыка, што ўжо не хапае ім хвіліны часу на роздум пра тое, аб чым я пісаў у адгалосках „Рабіць на гультаёў“. А факты выглядаюць так: калі „робіць“ чалавек галавой, то яго працы лічыць працай нельга, хоць такая больш-менш праца — гэта якраз творчая праца.

К. Сідаровіч піша, што каб выкараскацца з „комплекса хамута“, то трэба час ад часу стаміцца пры рыдлёўцы. Ад комплексаў трэба лячыцца, хоць не кожнае лякарства памагае, а нават часам шкодзіць. І вялікім шкодніцтвам для гаспадаркі было б гнаць інтэлігентаў да фізічнай, не па іхняй прафесіі, працы. Мае палемісты не заўважылі, што, ваюючы з „комплексам хамута“ самі маюць

(Працяг на стар. 3)



© PDF: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023




## ДАЎ БАРСКІ, ЯК ЗАЯЦ КАБЫЛЕ

Прачытаў я артыкул Алеся Барскага „Аб песімізме і бязвер'і“ і падумаў сабе: добра ўгрэў ім ён! Гэта ж дзіка, што знаходзяцца ў нас такія людзі, якія хваляць даваенную Польшчу. І хто ж гэта хваліць? — патомкі тадышняй басоты, усялякія бясхлебнікі! Не аднаму Пятэльскаму мову адымае ад гэтага дзівацтва, мне — таксама. Праўда, для мяне тая Польшча гэта ўжо далёкая гісторыя, бо калі я нарадзіўся — па санацыі толькі адзін смурод застаўся. Але я памятаю, што гаварылі мае бацькі і наогул, старэйшыя — галота была і паніжэнне чалавека нашага!

Толькі адно мяне цікавіць наконт тых даўніх часоў: крамы тады аж трашчалі ад тавару, і ён з часам рабіўся таннейшым. Амаль з году ў год. А цяпер? З году ў год цэны ўсё растуць, ані разу яны не зніжаліся, і ні на што... Цэны гэтыя ўжо пачынаюць быць проста астранамічнымі, так сказаць, паднебнымі, што голым вокам і не ўгледзіш іх. Яшчэ пару гадоў, і грошы трэба будзе мяшкамі насіць, настолькі бязвартаснымі стаюцца яны. Я, аднак, веру ў тое, што гэтая наша бяда праміне, бы ліха якое і ўсе мы выйдзем на шырокую дарогу ладу і разумнасці. А тое, што да вайны тавары не даражэлі, то я мяркую: было так таму, бо людзі жылі бедна, не мелі столькі грошай, каб боем і сварбою разбіраць тавары, як сёння.

Нішто ў жыцці не вяртаецца — не вяртаецца маладосць, не вернуцца гістарычныя эпохі, царызм не вернецца і санацыя патанула ў бяздонні вякоў. Таму Барскі, можа, зусім лішне так нервуецца ды злуецца на тых, хто плача і шкадуе санацыю: даў ён ім, як заяц кабыле. Яны ўсё роўна будуць шкадаваць тую санацыю, а санацыя ўсё роўна так і не прыдзе назад, як не прыходзяць нябожчыкі з магілаў. Тое, што памерла, ужо памерла назаўсёды, плач ты ці не плач.

Тым не менш ёсць сэнс у такім злаванні Барскага, капіталізм прапаў у нас, але не ў свеце. І хоць „Ніву“ чытаюць у свеце далёкім мала, аднак гэты свет далёкі робіць уплыў на некаторых нашых людзей і мус змагацца з гэтым уплывам. Барскі часта бывае ў капіталістычных краінах, нават у Амерыцы, і таму ён добра бачыць той капіталізм і добра змагаецца з ім, з ягонымі фальшывымі бляскамі. Галота ж у Амерыцы страшэнная, людзі ходзяць без работы і спяць пад голым небам, на вуліцах гарадоў, жабруюць, абадраныя і босыя. І напэўна пазіраюць яны там на нашага Барскага з зайздрасцю, як ён, годна і прыгожа апрануты, праходзіць каля іх. Яшчэ шчасце, што яны не абабралі нашага Барскага! Відаць, ведалі яны, якая персона з нашага Барскага... Яго пісанне можа каго і паўстрымае перад выездам на заробкі ў Амерыку, у якой, як у даваен-

(Працяг на стар. 5)

# Свойскія малюнкі



*Стары Беласток. Баяры. Мал. У. Петрука.*

(Працяг са стар. 3)

Асяроддзе спрыяе бытаванню розных дзікіх жывёлаў.

Абавязкі гаспадара гэтага вялікага багацця ўзялі на сябе жыхары і выхадцы навакольных вёсак — любіцелі прыроды, якія ўступілі ў рады Польскага саюза паляўнічых. Яны аб'ядналіся ў Гурток паляўнічых у Нарве. Гурток цяпер налічвае 65 членаў і 5 кандыдатаў. Яго галоўнае заданне — захаваць багацце прыроды сваёй ваколіцы, каб служыла яно нашаму і наступным пакаленням. А да гэтага трэба не мала гаспадарчых захадаў і цвёрдай дысцыпліны. І нараўскія паляўнічыя ў сваёй чыста грамадскай дзейнасці дасканала спраўляюцца. Яны стараюцца ствараць спрыяльныя ўмовы бытавання дзікай жывёле і ўсёй фауне і флоры, ахінуць яе ад згубнага ўплыву цывілізацыі. А прыродзе ж пагражаюць хімізацыя, меліярацыя, механізацыя, браканьерства, масавыя выезды людзей у лес і на рэчкі на адпачынак.

Гурток таксама пасяліў на сваім абшары фазаноў і думае развесці дзікіх кролікаў з іншых рэгіёнаў краіны. Зімой вядзе падкормку звярыны і птушак, дарослым дапамагаюць школьнікі з навакольных школ. Усё гэта неабходна забяспечыць патрэбнымі матэрыяламі і грашовымі сродкамі ды выканаць мноства грамадскай работы. Грошы гурток здабывае са складчын паляўнічых і паляваннямі на гэтым арандаваным абшары сваіх членаў і паляўнічых з іншых краін, так званых „дэвізоўцаў“.

## Не толькі палююць, але і будуюць

Паляванне ў нас — гэта планавае адстрэльванне вызначанай часткі жывёлы, якой проста занадта многа. Пры адстрэльванні большых звяроў дакладна захоўваецца рэжым селекцыі. Не страляем звяроў, якія могуць даць здаровы прыплод, і тых, якіх на гэтым абшары менш ад магчымасцей іх натуральнага ўтрымання. Паляванні прыносяць дзяржаве немалыя даходы ў дэвізах з продажу ўпаляванага і паляванняў „дэвізоўцаў“.

Члены Гуртка паляўнічых у Нарве — гэта актыўныя грамадскія дзеячы і ў іншых галінах жыцця. Між іншым, яны цікавяцца дзейнасцю БГКТ, праблемамі і гісторыяй вёсак, урочышчаў гміны і рэгіёна. На сходзе 5 ліпеня 1987 г. выказалі зацікаўленне пабудовай Беларускага музея ў Гайнаўцы. Калі ў канцы сходу старшыня гуртка Віктар Галіцкі і лоўчы Канстанцін Юшкевіч паінфармавалі аб гэтай справе, ўсе аднагалосна пастанавілі ўпісаць гурток сумай 50000 зл. у лік будаўнікоў Музея. Таксама выказалі патрэбу ўпісвацца індывідуальна ў члены камітэта пабудовы. Прытым сцвердзілі, што менш пяцідзесяці тысяч злотых даваць на такую справу было б сорамна, калі ў спісак будаўнікоў, як паведамляе „Ніва“, упісваюцца значнымі складчынамі беларусы з іншых краін і кантынентаў. Думаю, што такі падыход і разуменне грамадскіх спраў ёсць і будзе характэрны ўсім людзям, у тым ліку і паляўнічым.

**Я. Тапалянскі**

# З ПАЕЗДКІ Ў БССР

У Брэсце сустрэў мяне Аляксандр Аляксандравіч Кавальчук, — старшы рэдактар Брэсцкай студыі Беларускага тэлебачання. Гэта па прафесіі, а па прызнанню і захапленню — ён паэт.

Пазнаёміліся мы вясной 1985 года ў Беластоку. Была гэта зусім нечаканая і неспадзяваная для мяне сустрэча. Ад працаўнікоў музея „Брэсцкая крэпасць-герой“, а канкрэтна ад Васіля Ласковіча, ён даведаўся, што я займаюся лёсам воінаў, якія ў чэрвені 1941 года гераічна абаранялі надбужныя доты. Гэта зацікавіла яго як журналіста. Па заказу Цэнтральнага тэлебачання СССР ён рыхтаваў даволі доўгую праграму да 40-годдзя з дня перамогі і рашыў уключыць у яе гэты „мой“ эпізод. Памятаю, што найперш ён мне пазваніў з Брэста, папярэдзіў, што прыедзе, каб я падрыхтаваўся і расказаў аб лёсе абаронцаў надбужных рубяжоў.

Брэстчына афіцыйна супрацоўнічае з Белай-Падляшскай і ў рамках гэтага супрацоўніцтва наступіў абмен журналісцкімі дэлегацыямі. Аляксандр Кавальчук выкарыстаў нагоду і на адзін дзень разам са сваёй тэлеэкіпай вырваўся ў Беласток. Пасля кароткай сяброўскай сустрэчы ў „Ніве“, мы прыступілі да працы, гэта значыць, пры помніку Героям Беласточчыны, у самым цэнтры Беластока, я расказваў аб гераізме і пакутніцтве савецкіх людзей, якіх гітлераўская агрэсія застала ў надбужных раёнах Беласточчыны, аб кроўных сувязях, якія спалучаюць нашы братнія народы, аб узаемадапамозе ў цяжкі час акупацыі... Адным словам, на працягу пяці мінут, якія мне адвёў Аляксандр Аляксандравіч, я намагаўся расказаць як мага больш пра ўсё тое, аб чым пісаў на старонках „Нівы“ на працягу многіх гадоў.

## Журналіст і паэт

Праграма, відаць, атрымалася нядрэнная, так мне гаварылі пасля ў Брэсце. Я яе асабіста не бачыў, але яе ўздзеянне адчуў у карэспандэнцыі. Невядомыя мне людзі з розных, часта вельмі далёкіх раёнаў Савецкага Саюза, кіравалі на маё прозвішча пісьмы з просьбамі дапамагчы ім у пошуках хаця б якіх-небудзь слядоў іх сыноў, бацькоў, суродзічаў, што загінулі ў час вайны на тэрыторыі Беласточчыны ды ўвогуле па ўсёй Польшчы...

Так скрыжаваліся нашы журналісцкія шляхі, мой — „ніўскі“ ды Аляксандраў — „тэлебачанскі.“

Я асабіста лічу яго сваім земляком. Нарадзіўся ён па-суседску з Брэстам, у невялічкай вёсачцы Пяскі, якую ўжо амаль цалкам паглынуў абласны цэнтр.

А Брэстчына, так як і Беласточчына, для мяне — родная зямля. Мая Вулька-Нурэцкая кроўна спалучаецца з Брэсцкім Палессем. У даваенны час жылі мы ў Палескім ваяводстве, сталіцай якога быў Брэст. Пры Савецкай уладзе ўключылі нас у Высокаўскі раён, Брэсцкай вобласці, і памятаю, што першы раз наведаў я Брэст вясной 1941 года. Мясцовая гаворка ў маёй вёсцы — таксама з брэсцкай зацвярдзелай плыні...

— Паедзем зараз да мяне дадому, — распарадзіўся Аляксандр Аляксандравіч, узяўшы ў мяне з рук мой чамадан. — Ты сабе адпачнеш, а я крыху папрацую.

Аказалася, што ў гэтую ліпеньскую нядзелю ў Брэсце была наладжана нейкая вялікая патрыятычная маніфестацыя, са шматлюдным шэсцем па горадзе і мітынгам на плошчы Леніна і на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці. Значыць, прысутнасць тэлебачання там была неабходная, а для журналістаў час працы неабмежаваны.

Прапанова, каб адпачыць, мне спадабалася. За мной была бяссонная ноч у цягніку з Віцебска ў Брэст.

Аляксандр Кавальчук закончыў філалагічнае аддзяленне Брэсцкага педінстытута.

— Я — вучань Уладзіміра Ка-



© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

лі праблемы формы, зместу і грамадскай мэты творчасці (як, пра што і навошта?). Л. Дранько-Майсюк высоўвае перш-наперш пытанне: як? Пытанне формы, мастацкіх каштоўнасцяў напісанага. Пішам змястоўна, вельмі змястоўна, так змястоўна, ажно немагчыма гэта чытаць з натуральнай, непрымушонай цікавасцю. Бракуе артыстычнасці, мы панура правільныя. Без параўноўвання пісьменніцкай работы, хаця б з ювелірнай: гадзіннік павінен быць дакладны, каб не падвёў, але і прыгожы, эстэтычны, а не як лом які! Іначай літаратура страціць чытача, а без чытача яна мёртвая, нікому непатрэбная, здадуць яе ў макулатуру. Трэба спяшацца, пакуль ёсць трохі тых, якія хочуць — яшчэ! — чытаць па-беларуску. Можа ўдасца вярнуць ёй прынамсі частку свайго колішняга грамадскага значэння, паважання, папулярнасці, калі за беларускімі кніжкамі ў чарзе стаялі... Нашы пісьменнікі дажыліся да чытацкага бязлюддзя, яны пішуць да голай сцяны. „Шырокі пакупнік абыходзіць паліцы з нашымі кнігамі, — заўважае Л. Дранько-Майсюк, — і дарма заклікаць яго да нацыянальнай свядомасці. Ён не паверыць голасу, які пазбаўлены эстэтыкі, г.зн. мастацкай праўды“.

Справядліва: чаму гэта я павінен чытаць нешта толькі таму, што напісана яно па-беларуску? Колькі разоў сам я наглядаў паводзіны нашых некаторых „белавежцаў“, якія не хвараюць за чысціню, цэльнасць і прыгажосць мовы сваіх твораў, і — наадварот — як натхнёна яны і заядла працуюць, калі даводзіцца ім нешта стварыць на іншай мове, так сказаць, панскай, не мужыцкай!... Няма ў нас сапраўднай беларускай інтэлігенцыі, сказаў бы нябожчык Сяргей Дзяргай. Дыплом аўтаматычна не дае культурнасці, у ёй трэба выгадавацца. Адтуль і самаедства наша, і грошы свет нам засланілі.

**Аляксандр Анташэвіч**




— Як біў мяне па твары, то сінякі былі, і яму сорамна пачало рабіцца. Колькі ж раз жонка можа падаць з лесвіцы, праўда? А што ж скажаш людзям, калі жонка вучонага магістра ходзіць па горадзе з мордай фіялетавай ці зялёнай?.. То цяпер б'е па валасах, тады не відаць. І ніхто яго не зганіць. Для людзей ён — прыкладны бацька і муж, заўсёды з усмешкай на вуснах, а ў хаце зачыняе ўсё „сваё“ на ключ, знікае тыднямі ў Беластоку, а кветкі ўжо толькі чужым носіць пры аказіі і без аказіі. Работу цяпер мае някепскую. Урэшце з дадаткам на непрацуючую жонку і дзіця. Але колькі гэтага дадатку, не ведаю. Браў раней ужо выхаваўчы водпуск, калі я зарабляла на цэлую сям'ю і на першую сваю пасля універсітэта гаспадарку. У горадзе цяжка знайсці працу русісту, я працавала ўжо і ў „зэроўцы“, і ў прадшколлі, шукала і ў іншых установах. Каб чалавек быў адзін, без дзіцяці, і гэтых пажыткаў, хутчэй даў бы сабе раду. І без гэтага цяжару непатрэбнай нікому сувязі, якая руйнуе псіхіку і здароўе. Бо як гэта разумець, калі муж прымушае штогод сваю жонку да скрабанкі, бо няма ў яго магчымасці гадаваць усіх дзяцей, як кажа. Перад чужымі расказвае, і перад сваімі родзічамі, якія мяне не хочуць і не хацелі ведаць, што разводзіцца са мною, што дзіця не існуе для яго... Дык чаму ж, Божа мой, не кіне зусім ён мяне? Няхай дасць перадыхнуць і свет божы ўгледзець! У такой сітуацыі найгарачэйшае каханне змяніцца ў варожую нянавісць.

Кінуць яго? Слухай, гэта не так проста. Што скажа нашая цяпер амаль двухгадовая дачушка? Куды дзявацца з гэтым, што мы ўжо нажылі? Або і гэтая кніжачка на крэдыт „ММ“? Хто яе будзе выплачваць? А зрэшты, ён і так спакою мне не дасць. Будзе сто год усім гаварыць, што з-за мяне жыццё сабе змарнаваў. Бацькам так гаварыў, мне гаворыць, і дзецям будзе закідаць, што жыццё яму знішчылі. Такі ўжо ў яго характар. А пра сябе — які ж ён добры чалавек, якога мала хто разумее, толькі ты ў гэты момант адзіная. І гэта не гульня — у гэты момант ён так думае, так адчувае, і гаворыць так пераканаўча, што і сам верыць і чалавек яму давярае. Як я даверылася — спелая жанчына — не памятаю. Быццам чмут пусціў на мяне. На цэлае жыццё...

**Міра Лукша**

**РАСКЛАД РУХУ ПАЯЗДОЎ СА СТАНЦЫІ ГАЙНАЎКА**

| Прыезд | Мясцовасць | Ад'езд |
|---|---|---|
| 6.38 8.46, 12.11ас, 13.47, 15.51ас, 17.01, 19.11, 21.28 | Белавежа | 3.55ас, 4.35, 6.45, 9.45, 13.45ас, 17.05, 19.24, 23.24 |
| 6.24, 19.24 | Беласток | 3.35, 6.50, 14.10, 21.30 |
| 6.24, 8.41, 13.41, 16.06, 19.23 23.23 | Бельск-Падляшскі | 3.35, 4.30, 6.50, 10.40, 14.10, 17.10, 21.30 |
| 3.38с, 21.15 | Варшава | 2.40, 16.10ас |
| 0.20, 3.38ас, 6.30, 17.45, 21.15 | Седльцы | 2.40, 4.00, 16.10ас, 16.55, 19.28 |
| 2.35, 6.37, 9.09, 13.30, 16.40, 21.00 | Семяноўка | 4.35, 7.11, 9.23, 14.35, 19.28, 21.33 |
| 6.37, 9.17, 13.30 | Цісоўка | 4.35, 7.11, 9.23, 14.35 |
| 0.20, 3.35с, 5.25, 6.30, 7.34, 9.09, 13.30, 16.43, 17.45, 19.00, 21.15 | Чаромха | 2.40, 4.00, 5.37, 7.00, 9.20, 15.20, 16.10ас, 16.55, 19.28, 21.33, 22.45 |

а — ходзіць у суботы і нядзелі
с — скоры

шым, да пабудовы ў палове 1330 года ў Вільні — нядаўна заснаваным Гедымінам „стольцы“ — Троіцкага мужчынскага манастыра. З асаблівай ахвярнасцю і выдатнымі вынікамі гэтую дзейнасць пераняла па ёй нявестка яе, першая жонка Альгерда-Аляксандра — Марыя, дачка князя віцебскага Яраслава Васільевіча. Як можна меркаваць з крыніц, гэта якраз яна, вялікая княгіня Марыя Яраслаўна, вельмі актыўна падтрымлівала мужа ў яго намаганнях стварыць і ўмацаваць самастойную, незалежную ад Масквы, мітраполію Вялікага княства Літоўскага. Гэта яе блізкі родзіч Раман у 1354 г, быў пастаўлены мітрапалітам для Вялікага княства Літоўскага і адразу павёў „энергічную барацьбу за незалежнасць Кіева-Літоўскай мітраполіі, на якую ўвесь час квапіліся жыўшыя ў Маскве мітрапаліты“ — сцвярджае адзін з гісторыкаў праваслаўя на Беларусі. Княгіня Марыя Яраслаўна вельмі садзейнічала ўмацаванню праваслаўя, развіццю духоўнага жыцця і пашырэнню храмавага будаўніцтва ва ўсёй дзяржаве. Ідучы за яе прыкладам, княгіня Анна Глебаўна таксама стала чулай апякункай праваслаўнай царквы і актыўнай саўдзельніцай многіх пачынанняў пераемніка Рамана (памёр у 1362 г.), мітрапаліта Кіпрыяна — выдатнага царкоўнага дзеяча і палітыка. І ў той час, як муж займаўся ўмацаваннем і засяленнем Пабужжа і Панароўя, яна клапацілася пра адбудову храмаў, забеспячэнне іх неабходным царкоўным абсталяваннем, а духавенства — сродкамі для жыцця і дзейнасці. Няцяжка сабе ўявіць княгіню Анну, як вярхом на кані-інаходніку, у акружэнні баяраў-ахоўнікаў і свяшчэннікаў, едзе даглядаць адбудову цэркваў у Дарагічыне, Бельску, Бранску, Суражы ці падаецца ў Наваградак, дзе была сядзіба мітрапаліта Кіпрыяна і дзе яна асабіста хацела за яго парадай выбраць і заказаць іконы, багаслужэбныя кнігі ці іншыя храмавыя рэчы для паўстаючых цэркваў на Пабужжы і Панароўі.

Раптам недзе пад восень гэтае завіханне княжацкай пары пры адбудове і загаспадаранні свае зямлі-ўдзелу перапыніў адмысловы пасланец з Трок, ад самога Кейстута. Застаў Вітаўта і Анну ў Суражы — князь займаўся ўзмацненнем крэпасці і абсталяваннем порту на Нарве, княгіня цікавілася станам царквы. Кейстутаў загад сыну быў вельмі кароткі: накіраваць у Трокі некалькі харугваў самага лепшага войска. Але Вітаўта Кейстут не толькі не запрашаў разам, але нават прыгадаў, каб не спыняў сваіх заняткаў. Не было сумнення, што стары князь вырашыў адпомсціць крыжакам за іхняе нядаўняе нашэсце на Панямонне. І праз некалькі тыдняў з Вітаўтавых уладанняў падалося ў Трокі адборнае воінства.

Хоць на Пабужжы і Панароўі гэты Кейстутаў паход не выклікаў асаблівага здзіўлення ў насельніцтва і нават на Вітаўтавым двары, то ўсё ж княжацкая пара раптоўна перарвала свае дагэтуляшнія заняткі і ўсім дваром пераехала ў Гародню. Ці штосьці патаемна шапнулі пасыльныя, ці самому Вітаўту гэты Кейстутавы паход выдаўся падазроным, асабліва бацькава неахвота, каб ён прыняў у ім удзел, — на ўсялякі выпадак сын хацеў быць бліжэй бацькі. І ў прадчуваннях не памыліўся.

**Мікола Гайдук**

(Працяг са стар. 6)



райшоў у другую веру, то адразу прыбагацеў як бы, дзеці яго пачалі хораша апранацца і абувацца. У той веры, у якую ён перайшоў, забаронена браць у рукі стрэльбу, ён яе і не браў, бо не меў, але ў сваім агародзе бабу за гарбуз сякераю зарубаў... А ў іншай вёсцы была жанчына, якая лічыла сябе вельмі набожнай і казала свайму суседу: „Ёзік, я ў цябе дроваў крадком набрала, але ўжо выспаведалася з гэтага“.

У сваёй мясціне мы заўсёды гаворым па-свойму, ну, па-беларуску, бо і як жа іначай (?). Зусім не тое робім у горадзе, бо горад польскі, і цяжка тут вінаваціць горад, што ў ім па-беларуску не загаворыш. Спрабуй не гавары па-польску ў нашым польскім горадзе! Пра нашу мову шчырую праўду напісалі Аляксандр Анташэвіч і Пятро Байко. Некаторым нашым дыскутантам не пашкодзіла б яшчэ раз уважліва пачытаць Анташэвіча і Байко. Яны выразна пішуць, што не ўсё ад нас, беларусаў, залежыць у гэтых нацыянальных справах, ці мы будзем цвісці, а ці толькі зелянець. Нашу мову гняце прытым ярмо вясковай мовы, значыць, нібы горшай і не так добра развітай, а таму, што за нашай мовай няма жывой традыцыі дзяржаўнай мовы (калісьці яна, праўда, была дзяржаўнаю, але калі гэта было, у Вялікае княства Літоўскае, гадоў трыста назад, дык хто гэта памятае?!).

Мы разумеем і па-польску, і па-руску, але лягчэй нам гаворыцца сваёй моваю, у якой выраслі, пагадаваліся. Гавары з сваім дзіцём па-беларуску, то і будзе яно беларусам, а калі гаворыш з ім на іншай мове, то і не дзіва, што вырасце яно іншым чалавекам. Якое выхаванне, такое і кананне...

Я ад 1919 года жыву ў Польшчы, ад таго часу тут у нас усё Польшча і Польшча. Мы, беларусы, якія не хадзілі ў беларускія школы, не ўсё разумеем у сваёй літаратурнай беларускай мове. Я толькі з „Нівы“ даведаўся, прыкладам кажучы, што такое „лесвіца“, бо мой бацька і мой дзед гаварылі на „лесвіцу“: драбіна. Я, калі б умеў гаварыць па французску, то з французам гаварыў бы яго мовай, ведаючы, што па-беларуску ён не зразумеў бы мяне.

Не можам мы камусьці забараняць гаварыць на дзяржаўнай мове, і такога закону няма. Калі б пры санацыі пісалі так, як цяпер, што хто гаворыць па-польску, той здраднік і рэнегат, то за гэта быў бы арышт і турма. Калісьці, калі не лаялі ў „Ніве“ адзін аднаго за адшчапенства, то „Ніва“ была больш папулярнай. А цяпер — хто загаворыць па-польску, то адразу трэба крывіцца на яго? Польская размова, гэта яшчэ не факт, што чалавек выракся сваёй нацыі. Некаторыя выракліся і сваёй праваслаўнае веры, але неяк ніхто не піша пра іх, што яны жывуць, ненавідзячы сваіх і сябе...

**Ф. Хлябіч**

© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### ГАЛАШЭННІ

Да заўваг, зробленых намі ў папярэднім адрэзку, трэба яшчэ дадаць, што практычна ва ўсходняй Беласточчыне, зрэшты, праўдападобна, і па ўсёй беларускай тэрыторыі, галашэннямі займаюцца выключна жанчыны; мужчыны не бяруць у іх удзелу.

Як правіла, галашэнні выступаюць у той момант, калі нябожчыка выносяць з хаты, у часе развітання з ім пад крыжам у канцы вёскі і ў час засыпання труны зямлёй.

Цяпер варта прывесці некалькі тэкстаў галашэнняў, якія дазволяць пазнаёміцца з характарам гэтага трагічнага і прыгожага віду народнай творчасці. Вось галашэнне маці над памершай дачкой з вёскі Дубіны:

*Устань, моя дочанько, устань!*
*Я до тэбэ прышла,*
*А ты нэ одзываешся*
*Навэт одным словэчком до мэнэ!*
*А мы тобе такое смутнэньке*
*Вэсэлечко выпраўляем!*
*Хатку зробілі такую нэвэсёлу.*
*А чом ты з намі*
*Нэ хотела жыті?*
*Чым мы тобе так надокучылі?*
*Прылеті до нас хоть зазулькою,*
*Закуй на нашой яблыньцы.*
*Дэ нэ пойду, тэбэ нэ найду,*
*По твоіх слідочках буду ходіті,*
*Слёзы роніті.*
*Все твое слідочкі і стэжочкі*
*Травою заростут.*
*Все твое кумпанкі ходят,*
*А тэбэ нігдэ нэма,*
*Мое дітятко роднэньке,*
*Ты вжэ до мэнэ нэ прыдэш,*
*А прыдэ час, я прыду до тэбэ!*

Галашэнне дачкі над памёршай маці з вёскі Лука:

*Ах, мамачко залатая,*
*Ах, мамачко родненька,*
*Чом ты очкі закрыла?*
*Чы ты на нас злуеш?*
*Чы ты на нас сердуеш?*
*Можэ мы цебэ не дагледзілі?*
*Можэ мы пра цебэ не дбалі?*
*Ах, мамачко залатая!*
*На каго ты нас пакінула?*
*Хто нам будзе памагаці?*
*Хто нам будзе пасабляці?*
*Хто будзе ў бедзе ратаваці?*
*Хто будзе ў жыці кіраваці?*
*Ах, мамачко, мамачко!*
*Ніколі нас не забывай,*
*Ніколі нас не пакідай!*
*Зязюлькаю прылетай!*
*Мы будзем цебэ выгледаці,*
*Мы будзем цебэ ждаці!*

Характэрная і арыгінальная рыса тэксту прыведзенага галашэння заключаецца ў тым, што складаецца ён амаль выключна з пытальных і выклічных сказаў.

Другой уласцівасцю гэтага галашэння з'яўляецца яго паэтычнасць. Праўда, з пэўнай непаслядоўнасцю, але праяўляецца ў ім імкненне да рыфмізацыі пасобных радкоў. Да такіх рыфмаваных слоў належаць наступныя: *памагаці, ратаваці, кіраваці, забывай, пакідай, прылетай, выглядаці, ждаці.* Не можам сумнявацца: гэта рыфмоўка ў ніякім выпадку не выпадковая. Наадварот, узнікла яна ў выніку свядомага імкнення жыхаркі Лукі да таго, каб яе галашэнне мела не чыста празаічную, але і паэтычную форму.

**А. Баршчэўскі**




### БАБКА З МАННЫ

На адну шклянку манны трэба ўзяць бутэльку кефіру, 2 сталовыя лыжкі цукру, 1 яйка, паўлыжачкі соды, паўшклянкі смятаны (ці масла), соль.

Манну размяшаць з кефірам, дадаць соль, яйка і цукар і, добра перамяшаўшы, паставіць на дзве гадзіны, каб набрыняла. Пасля ўсыпаць соду, перамяшаць і выліць на змазаную тлушчам гарачую патэльню або ў формачку і запячы ў духоўцы. Калі бабка будзе гатовая, паліць яе смятанай ці растопленым маслам.

### СЫРНІКІ, ЗАПЯКАНЫЯ СА СМЯТАНАЙ

На паўкілаграма тварагу трэба ўзяць паўшклянкі мукі, 1 яйка, 2 сталовыя лыжкі цукру, 2 сталовыя лыжкі масла, паўшклянкі смятаны, соль.

Тварог перацерці, дадаць яйка, цукар, соль, муку, і ўсё добра перамяшаць. З падрыхтаванай масы рабіць аладкі і смажыць іх з аднаго боку. Пасярэдзіне кожнага рабіць ямку і наліваць туды крыху смятаны. Сырнікі запячы ў духоўцы, а перад падачай на стол паліць смятанай.

### СЫРНЫЯ БАТОНЧЫКІ

На паўкілаграма тварагу трэба ўзяць 1 шклянку мукі, 1 яйка, 2 сталовыя лыжкі смятаны, 1 сталовую лыжку цукру, палавіну чайнай лыжачкі соды, 2 сталовыя лыжкі цукровай пудры, тлушч, соль.

Тварог добра расцерці, дадаць муку, яйка, смятану, цукар, соду і перамяшаць усё так, каб не было грудак. З гэтай масы рабіць тонкія валікі і нарэзваць іх даўжынёю 8–10 см, пасля чаго смажыць іх у вялікай колькасці тлушчу, як фрыткі. Гатовыя батончыкі пасыпаць цукровай пудрай.

Асобна можна падаць нейкі кісель.

**Гаспадыня**

### КАЛІ БУДЗЕ ВІДНЕЙ?

Сяляне Белкаў, што ў гміне Нарва, ужо мінулым летам стараліся, каб як-небудзь адрамантаваць вулічнае асвятленне ў іхняй вёсцы. Не даходзілі іх словы да электраманцёраў у Нарве, ім ніколі не было на гэта часу.

Радны закранаў гэтую справу на сесіі Гміннай рады ў Нарве. Управа гміны звярнулася пісьмова ў Раённае электраэнергетычнае прадпрыемства ў Бельску-Падляшскім, каб усё ж яно як-небудзь наладзіла тое асвятленне ў вёсцы Белкі.

Аднак гэтыя ўсе прамовы і пісьмы адбіваліся ад мазгоў адпаведных людзей, быццам гарох ад сцяны. Асвятлення як не было, так і няма па сённяшні дзень, і вёска патанае ў цемры.

Лета канчаецца. Зараз настане восень і будуць кароткія дні і цёмныя вечары.

Гэта адрасуецца непасрэдна электраманцёрам у Нарве. Варта, каб

(Працяг на стар. 11)

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, я толькі што перастаў быць студэнтам і ў верасні пачынаю працу. Якраз у верасні споўніцца два гады майго знаёмства з Эльжбетай. Наша сустрэча, як найчасцей у такіх выпадках здараецца, была зусім выпадковая. Было гэта падчас так званай імпрэзы ў доме студэнта. Неяк адразу прыйшлі мы сабе да спадобы, не мінула двух месяцаў, як наша знаёмства перайшло ў даволі блізкую форму адносін. Потым аказалася, што нашы характары вельмі падобныя, а ў сферы эротыкі таксама мы адчувалі сатысфакцыю ў так званай „праверцы сіл". Думаю, што не памылюся, калі скажу, што нарадзілася ў нас каханне. Мы пачалі думаць пра вяселле. Эльжбета пазнаёміла мяне са сваімі бацькамі на вёсцы і я пачаў усё часцей бываць у яе на кватэры. Я не сказаў, што Эля не жыла ў інтэрнаце, а карысталася гасцінай старэйшай на некалькі гадоў сваячкі, якая мела ўласную хату. Гэтая сваячка (буду яе зваць Галяй) была ўжо замужам, але, як часта цяпер бывае, муж кінуў яе. Падчас гэтых маіх візітаў, калі я часта аставаўся начаваць, я добра пазнаёміўся з Галяй. Яна была даволі прыгожая, але перш за ўсё захапляла мяне сваімі інтэлектуальнымі гарызонтамі. На дыскусіях праходзілі ў нас доўгія гадзіны. З часам я заўважыў, што Галя стала мне не менш блізкай, чым Эля. Эля спачатку крыўдавала, а Галя адплаціла мне падобным пачуццём. Быў час, калі справа выглядала так кепска, што я думаў парваць з усім. Аднак з часам усё неяк упарадкавалася і мы сустракаемся надалей ўтраіх. Эля ўжо з гэтым годзіцца і нават перастала гаварыць пра наш шлюб. Неразвязанай астаецца толькі справа эратычных зносін. Аказалася, што Галя таксама патрабуе мужчыны, ды і я неяк не мог стрымацца, каб не пераступіць той мяжы. У далейшым я жыву з Эляй. Усё выглядае нібіта добра. Дзяўчаты не маюць засцярог: я, як дагэтуль, вывязваюся з абавязку, хаця бывае нялёгка.

Ведаю аднак, што ўсё гэта часовае. І гэта мучыць мяне найбольш. Тым болей, што ў верасні пачынаю працу ў Беластоку і Галя запрапанавала мне жыць у яе вялікай трохпакаёвай кватэры.

Дарагое Сэрцайка, ведаю, што свет перажывае сексуальную рэвалюцыю. Давялося чуць сёетое і пра групавы секс, але ўва мне сядзяць усё яшчэ нейкія супраціўленні адносна і самой ідэі і тэхнікі.

Сэрцайка, што рабіць?

**Алік**

Ой, Алік, Алік! Забыўся ты, брат, што жывеш у засценку і ўсё, што моднае на Захадзе, даходзіць да нас, на Беласточчыну, намнога пазней. Групавы секс ужо там не навіна (наадварот — у моду ізноў увайшла рамантыка), а мы тут усяго яшчэ марым пра яго! Не цэніцца ўжо падыход да сексу як да нейкай чыста тэхнічнай справы, наадварот — яго сентыментальная афарбоўка дадае сёння бляску палавым зносінам (нават тады, калі хлопчык кахае хлопчыка!).

Добра, што з табой яшчэ не так кепска. У параўнанні з заходнімі ўзорамі — што значыць твой дробны скок убок?! Чаго ж тады перажываць? Думаю, што пры нашым прымітывізме з часам усё і ў цябе выраўняецца, прыйдзе ў норму і ты застанешся з адной дзяўчынай, якой будзе, думаецца мне, Галя. У яе ж кватэра ў Беластоку, ды яшчэ не абы-якая, а трохпакаёвая!

**Сэрцайка**

## СОННІК

86

**Перасяліцца** — пакража.
**Пераход** — жыццё без турбот.
**Перац** — непаразуменні; малоць — благі настрой.
**Перашкаджаць** — умяшанне ў чужыя справы.
**Пераязджаць** з аднаго месца жыхарства ў другое — турботы і сумятня.
**Пергамент** — неспадзяваная спадчына.
**Пер'е** — неспакой, трывога.
**Перламутр** (перлавая маса) — табе пагражае небяспека.
**Персікі** (бжасквіні) есці — уз'яднанне з каханай асобай; рваць з дрэва — моцнае маёмаснае палажэнне.
**Песні** спяваць — радасць; чуць — вяселле.
**Печ** — неспадзяваная заможнасць; гарачая — удача; халодная — табе шмат чаго не хапае; будаваць — прыемная старасць; паліць у ёй — спакойнае сямейнае жыццё.
**Печыва** — свежае — благія часы прамінуць; есці — запрашэнне ў гасціну; купляць — даход, карысць.
**Пёры** — гонар, пашана; чорныя — жалоба; прыбірацца ў пер'і — далёкае падарожжа; белыя — ачысціш сваю рэпутацыю; дзерці — выйгрыш; плюмаж (карона з пер'я) — зазнайства, напышлівасць.
**Піва** — яснае — ліст; цёмнае — добрыя даходы; мутнае — турботы, засмучанне; разліць — прыкрасць; салодкае — выйгрыш.
**Піла** — ўдача ў справах; пілаваць — ажыццяўленне пажаданняў.
**Пілот** — прыемная перамена лёсу.
**Пільнаваць** — турботы і клопаты.
**Піраміда** — дастатак.
**Пісаць** — навіны, добрыя інтарэсы; прыгожа — цябе пахваляць; брыдка — засмучанні.



© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023

# Зорка

## Старонка для дзяцей

**У канцы чэрвеня бягучага года генеральны сакратар ААН Перэс дэ Куэльяр наведаў БССР, сустрэўся з уладамі Рэспублікі.**

**Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка — член Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка — адзін з заснавальнікаў ААН. Гэтакае права ёй было дадзена за вялікія заслугі ў барацьбе супраць нямецкага акупанта і за ўклад у перамогу над фашызмам.**

**Беларусь моцна пацярпела ў час апошняй вайны. Яна панесла самыя вялікія ахвяры ў людзях. Кожны чацвёрты беларус загінуў у час вайны і акупацыі. Цяпер голас Беларусі чуецца на гэтым самым высокім міжнародным форуме, якім з'яўляецца ААН.**



## Мы, народы Аб'яднаных Нацый...

Так пачынаецца Дэкларацыя і Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, падпісаны дзяржавамі-заснавальніцамі ААН 26 чэрвеня 1945 г. у Сан-Францыска. БССР ратыфікавала Статут ААН 30 жніўня 1945 г.

У Статуце ААН замацаваны справядлівыя і прагрэсіўныя прынцыпы міжнароднага ладу і супрацоўніцтва.

Галоўныя органы ААН: Генеральная Асамблея, Савет Бяспекі, Эканамічны савет, Сацыяльны савет, Савет па апецы, Міжнародны трыбунал і Сакратарыят.

З ААН цесна супрацоўнічае 12 спецыялізаваных устаноў, напр. МАП, ЮНЕСКО, ЮНІЦЭФ, ФАО. Афіцыйныя мовы ААН — англійская, іспанская, кітайская, руская, французская.

Над загалоўкам вы бачыце эмблему — сімвал Арганізацыі Аб'яднаных Нацый — зямны шар з контурамі ўсіх кантынентаў, акружаны хлебнымі каласамі. Гэта глыбока гуманітарная эмблема.

Растлумачце думку-ідэю, якую гэты сімвал увасабляе.




## Сябры „Вясёлкі" і „Зоркі"

Калі сёлетняй вясною ў беларускім Мінску праходзіла свята кніжкі і юбілей часопіса „Вясёлка", усіх рэдактараў дзіцячых часопісаў, якія прыехалі на тое свята, запрасілі да сябе найбліжэйшыя сябры „Вясёлкі" — дзеці з Палаца піянераў Маскоўскага раёна горада Мінска. Яны — найбліжэйшыя суседзі рэдакцыі і першыя яе сябры і памочнікі.

А паказаць у дзяцей было што.

Спачатку нас павялі паказваць свой палац. Ёсць тут багатая бібліятэка, працуе лялькавы тэатр, а апрача таго цэлы шэраг розных майстэрняў і секцый.

У працоўні авіямадэляў мы засталі двух хлапчукоў гадоў васьмі, якія старанна, заўзята майстравалі — клеілі лёгкія, як пярынкі, крылы сваіх мадэляў самалётаў. Рабілі гэта так сур'ёзна, так спраўна, як сапраўдныя канструктары.

Секцыя мяккай цацкі — гэта месца, дзе дзяўчаткі шыюць плюшавых і футраных коцікаў, зайцаў, вожыкаў, а апрача таго — розныя лялькі, вырабляюць дываніκі, а ў працоўнях рукадзелля — шыюць, вяжуць, вышываюць, ткуць і чаго яшчэ толькі не робяць! Са сваімі цацкамі дзяўчаткі ўдзельнічаюць у розных тыпу выстаўках і спаборніцтвах, а потым робяць з гэтых дзіцячых скарбаў падарункі для дзіцячых бальніц і дзіцячых дамоў. І ўсім дзецям гэтыя цацкі прыносяць радасць. Нам, рэдактарам, дзяўчаткі ўручылі таксама свае падарункі. „Зорка" атрымала элегантнага ката ў чырвоных ботах і капелюшы, з заліхвацкім вусікам і шыкоўным хвастом. Хлопцы ж тут больш захапляюцца вырабам механічных цацак, такіх, каб самі ездзілі, трубілі, гралі, а калі ўжо мішкі ці малпкі, дык каб танцавалі. Такі ўжо хлапечы розум — абавязкова, каб з тэхнікай.

Працуе, таксама, пры Палацы піянераў вельмі вялікі колькасна і багаты якасна беларускі фальклорны калектыў. Ён выступіў перад запрошанымі гасцямі, ды так цудоўна, так дасканала, што ўсе мы былі ў захапленні. Колькі яны, тыя дзеці, ведаюць цікавых беларускіх песень! А колькі танцаў! І кожны нумар у новым цікавым народным адзенні.

Дзеці з Палаца піянераў цікавіліся жыццём дзяцей у Польшчы, хацелі пазнаёміцца і пасябраваць з чытачамі „Зоркі". А на развітанне нашай сустрэчы танцоры з калектыву зрабілі супольны памятны здымак з рэдактарам „Зоркі".

**Яніна Чэрнякевіч**

## Крыніца

У сасновым лесе
З-пад кары, іголіцы
Булькае, іскрыцца
Чыстая крыніца.
Хочацца напіцца —
Побач упадзеш,
Чыстую вадзіцу,
Бы цапам з мёдам, п'еш.

## Родны лес

Мае думы калыша лес
Ціхай гамонкай галін,
Незлічоных багаццяў крэз,
Я ў палоне шчаслівых хвілін.
Тваіх дрэваў сок — мая кроў,
Шолах траў тваіх — калыханка.
Песціць вочы чародкі грыбоў,
І суніцы — як слёзы заранкі...

**Сяргей Чыгрын**
**БССР, Слонім**



## Ляці, мой шар

**Мой шар блакітны,**
**Друг крылатых мар.**
**Увысь ляці —**
**Стань бачны ўсім**
**здаля.**

**Увысь ляці —**
**І ўбачыш сам з-пад**
**хмар,**
**Якая ў нас цудоўная**
**зямля.**

**Ляці на Месяц**
**І пра нас там раскажы.**
**Ляці да Сонца**
**І вяртайся, не кружы.**
**А недзе затрымаешся**
**падчас**

**Я за табой**
**Чырвоны шар пашлю.**
**Ты ж не крыўдуй,**
**Што меў яго**
**ў запас, —**

**Я гэты колер,**
**Як і твой, люблю.**
**Ляці да Марса, шар,**
**Імклівa, не прыстань:**
**Флажок мой данясі.**
**Зямною кветкай стань.**

**Нінакан Джундубаева,**
**Кіргізія**

**Уладзімір Дубоўка**



## Казка пра зачараваную лілю

**(Заканчэнне з папярэдняга нумара)**

З усёй пабегла сілы
да возера дзяўчына.
Сяброў гукае мілых,
сяброў сваіх адзіных.

Плывуць і гусі статкам
і лебедзі за імі.
А птушкі, нібы ў ладкі,
б'юць крыламі сваімі.

І кветкі пахнулі
да Лілі ўсе пялёсткі,
калі пазналі-ўчулі
пра лёс дзяўчынін жорсткі.

— Чаго там думаць доўга?
Ідзі да нас, на хвалі!
Не можа быць такога,
каб мы не ўратавалі —

Яна гарлач узняўшы
над галавой сваёю,
пайшла ў ваду бясстрашна
звычайнаю хадою.

А Ягавіца злая,
ліхая Драцяніца
ніяк не дачакаюць
азёрнае вадзіцы.

Пабеглі колькі духу,
зірнулі: Ліля ў хвалях!
Як іх схапіла скруха —
ледзь-ледзь не паўміралі.

А лебедзі і гусі
сваім махнулі крыллем.

**(Працяг на стар. 10)**



© PDF: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

# КАЗКА ПРА ЗАЧАРАВАНУЮ ЛІЛЮ

(Працяг са стар. 9)

Зачараваўшы, мусіць,
зрабілі кветкай Лілю.

Пялёсткі залатыя,
гарлачык на галоўцы.
Вада іх знізу мые,
а зверху грэе сонца.

Шырокімі лістамі
адразу рукі сталі,
ў адно імгненне хвалі
і гнуткі стан схавалі.

Заякаталі ведзьмы
ад нестрымнай злосці
і скочылі абедзве
ўздагон за прыгажосцю.

Паспела Ягавіца
за ножку учапіцца.
Так і плыве за ёю,
як корань, пад вадою.

Пры ёй дачка ліхая
хавае кудлы ў твані.
І тая і другая
змяніліся дазвання.

Ні сонца ім не свеціць,
ні ветрык ім не вее.
Ніхто на цэлым свеце
тых ведзьмаў не жалее.

І Ліля з той часіны
красуе ў нашых водах.
Чароўная квяціна
цвіце на ўсіх азёрах.

Імён багата мае:
збаночкі, плывуночкі.
І глечыкам, бывае,
ў якім завуць куточку.

Але завуць заўсёды
там Ліляй Залатою,
дзе ад ліхой нягоды
прабегла над вадою.

Прыйдзі калі на золку
да завадзі азёрнай,
пабачыш, як на волкай
прасторы дзіўна-зорнай

пачнуць з'яўляцца кветкі,
ўзнімаць галоўкі вышай,
ды як лягуткі ветрык
цалуе іх, калыша.

Пачуеш там і песню
зачараванай Лілі,
якую на прадвесні
мы слухаць так любілі:

„Жоўта лілея,
залатое лісце...
Не пытайся, дзе я,
кім была калісьці.

Не давайся крыўдзе
і не крыўдзі сірых,
бо адплата прыйдзе,
як для ведзьмаў хіжых.

Залаты гарлачык,
зеляное лісце...
Ліля больш не плача,
як даўней, калісьці.

Хоць плывуць пад ёю
ягаўкі абедзве,
але ж ёсць затое
добрыя суседзі..."

## Толькі для дзяўчат

# ЯК БЫЦЬ ПРЫГОЖАЙ?

Дзяўчынкі, хачу вас абрадаваць: сёлета вяснушкі вельмі-вельмі... модныя. І многія модніцы нават зайздросцяць вам! Па-другое, вяснушкі можна трошкі „прыглушыць". Чым? Лімонным сокам, кашкай з нацёртай бульбы, хрэну, рэдзькі. Ёсць і спецыяльныя крэмы: „Вясновы", „Метамарфоза", „Малачай".

І трэцяе, самае галоўнае. Часцей усміхайцеся! Усміхнуліся? Цяпер паглядзіце ў люстэрка. Праўда, на вас глядзіць мілая, сімпатычная дзяўчынка?

Многія падлеткі скардзяцца на тое, што ніяк не могуць зрабіць модную прычоску: у аднаго валасы зусім тонsenькія, непаслухмяныя, у другога занадта тлустыя, у трэцяга...

Трэба ўмець даглядаць іх. Раніцай і ўвечары абавязкова 5-10 хвілін расчэсвайце валасы, ад макаўкі да ілба, вушэй, па крузе. Гэта своеасаблівы масаж.

Мыць іх трэба пенай з дзіцячага мыла і не часцей аднаго раза ў тыдзень і спаласкаць кіпячонай вадой або рамонкавым настоем.

А каб былі валасы пышнымі і густымі, перад мыццём трэба зрабіць вось што: вазьміце адзін жаўток, узбіце яго і дабаўце туды лыжку рыцыны. Расчоскай аддзяляйце пасмачку за пасмачкай і змазвайце гэтай сумессю скуру. Потым хутка завяжыце галаву пластыкавай хусцінкай, газетай і зверху яшчэ цёплым шалікам. Праз дзве гадзіны памыйце валасы.

Улетку — болей гародніны, садавіны, сокаў, многа рухайцеся, кожную свабодную хвілінку старайцеся праводзіць на свежым паветры, на сонейку. Гэта дапаможа пазбавіцца і такога распаўсюджанага ў падлеткаў захворвання як вугры. Многа непрыемных хвілін бывае з-за іх, праўда? Але правільны догляд за скурай твару, рэжым харчавання дазволіць вам развітацца з гэтай „бядой".

Лепш за ўсё ўмывацца з дапамогай туалетнага мыла і губкі 2-3 разы ў тыдзень. А калі вы прывыклі кожны дзень мыцца з мылам, трэба перад умываннем нанесці на твар на 5-10 хвілін кефіру ці кіслага малака.

Значыць, запомнім: галоўнае лякарства пры вугровым сыпу — чысціня скуры. Можна ўжываць для ачысткі твару саліцылавы ці борны спірт, настойку календулы.

Калі ёсць магчымасць, усё ж звярніцеся да ўрача-касметолага, можа трэба правесці больш складанае лячэнне.

І яшчэ некалькі слоў пра касметыку дэкаратыўную, так званы макіяж. Не спяшайцеся састарэцца, дзяўчынкі. Так-так, ранняе ўжыванне касметыкі — першы крок да маршчынак. Не хочацца цяпер пра гэта і думаць, так? Але ж паверце вопыту ўрача. Вы не дазваляеце скуры нармальна дыхаць: пад тоўстым слоем пудры, памады, яна проста захворвае.

Лёгка рухайцеся, будзьце заўсёды акуратнымі, вясёлымі, будзьце здаровымі!

С. М. Юшко
урач-касметолаг

## ДЗЯВОЧЫ КВАРТЭТ

Дзяўчаткі гэтыя — школьніцы. Вучацца ў школе ў Чаромсе. Любяць спяваць. А гэта найлепш выходзіць у калектыве. Чаромхаўскі клуб культуры „Калеяж" ахвотна прыгарнуў дзяўчат пад сваю апеку. Кіруе гэтым дзявочым калектывам вядомы музыкант Віктар Леанкевіч.

Верым, што дзявочы квартэт з Чаромхі паявіцца ў бліжэйшым конкурсе беларускай песні для школьнікаў і тады мы зможам іх паслухаць. Ведаючы, як спявае Чаромха, думаем, што гэты школьны калектыў будзе верна прадаўжаць традыцыю.

(вв)

Фота Тамары Кердалевіч



Злева: Эва Курыла, Малгажата Грыцук, Іанна Кердалевіч, Анна Зінкоў.

# ПАЗНАВАЦЬ ПА ЛАПКАХ

На свеце жыве каля 10.000 відаў птушак. У нас можам убачыць 350, а гнездзяцца каля нас толькі 200. Птушак пазнаем па іх спеве, а таксама па іх лёце і па пер'і. Але пер'е птушак бывае рознае на той самай птушцы, змяняе свой выгляд зімой і летам, інакш выглядае птушка, а інакш птушаня. Нават сярод тых самых птушак інакш выглядаюць самцы, а зусім непадобныя бываюць да іх самкі.

Характэрным распазнавальным знакам могуць быць у птушак лапы. Прадстаўляем вам некалькі птушыных лапак розных птушак.

Вось яны:
1. алька
2. гусь
3. чайка
4. перапёлка
5. ластаўка
6. сава
7. зімародак
8. фазан
9. каня.




# Вясёлы куточак

Дачка пытаецца:
— Мама, крапіва кусаецца?
— Кусаецца.
— Дык чаму яна не брэша?

* * *

Бабуля:
— Саша, схадзі ў магазін. Ды хутка: адна нага тут, другая — там!

Саша:
— Добра, схаджу.

Бабуля:
— Ты чаму абуў чаравік толькі на адну нагу?

Саша:
— Навошта абуваць другую, калі яна будзе тут?

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Упішыце ў маленькія кружочкі лікі ад аднаго да дванаццаці такім спосабам, каб сума чатырох лікаў у вялікіх кругах склала лік трынаццаць.


Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul Wesołowskiego 1

© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

